Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

28 (536) 15 ліпеня 2010 года

Кошт **свабодны**



Дай лапу, сябра!

Працяг тэмы на стар. 4



Фота Ул. Скрабатуна





# Ì ûòíÿ äàå äààáðî: êîëüê³ ³ ÷àãî çàðàç ì îæíà ïðûâîç³öü ç Ðàñ³³

■ БелаПАН

**Беларусь, Расія і Казахстан сталі адзінай мытнай тэрыторыяй. Што змянілася? Прывядзём параўнальны аналіз нормаў перамяшчэння тавараў для асабістага карыстання праз мытную мяжу мытнага саюза.**

**Алкаголь, цыгарэты, іншыя тавары**

Цяпер праз мяжу можна бязпошлінна ўвозіць у суправаджаным і несуправаджаемым багажы (за выключэннем непадзельных тавараў, этылавага спірту) тавары коштам не больш за 1 500 еўра і вагой не больш за 50 кг, тады як раней гэта норма была значна ніжэй - тавары коштам 1 000 еўра і вагой не больш за 35 кг.

Пры перавышэнні нормы выплачваецца пошліна ў памеры 30% ад кошту, але не меней 4 еўра за 1 кг.

З гэтага часу адзін паўналетні грамадзянін можа бязпошлінна ўвозіць 3 літры алкагольных напояў і піва - гэта на літр больш, чым раней. У выпадку перавышэння нормы выплачваецца пошліна па адзінай стаўцы 10 еўра за 1 літр. Больш 5 літраў увозіць забараняецца.

Этылавы спірт таварных пазіцый 2207 і 2208 90 ТН ВЭД ТС у колькасці да 5 літраў увозіцца з выплатай мытных пошлін, падаткаў па адзінай стаўцы 22 еўра за 1 літр. Звыш 5 літраў увоз забаронены. Раней спірт можна было правозіць бязпошлінна ў выпадку ўключэння ў склад бязмытна ўвазных тавараў, з выплатай мытных пошлін, падаткаў па адзінай стаўцы ў выпадку перавышэння нормаў.

Дапушчаецца бязмытны ўвоз 200 штук цыгарэт (як і раней) ці 50 цыгар (сігар), ці 250 грамаў тытуню (на 50 грамаў больш, чым раней) ці паказаныя тавары ў асартыменце агульнай вагой не больш за 250 грамаў.

Перасылка ў міжнародных паштовых адпраўленнях забаронена.

**Транспартныя сродкі**

Да 1 ліпеня 2011 года будуць дзейнічаць ранейшыя стаўкі мытных пошлін на ўвоз легкавых аўтамабіляў, гэта значыць стаўкі, прадугледжаныя Палажэннем, зацверджаным указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15.10.2007 № 503.

З гэтага часу з выплатай сукупнага мытнага плацяжу ўвозяцца водныя, паветраныя транспартныя сродкі, а таксама квадрацыклы, снегаходы, мапеды з аб'ёмам рухавіка да 50 куб. гл, матацыклы.

Увоз б/к шын (акрамя запаснога кола да транспартнага сродку) забаронены. Раней дапушчаўся бязпошлінны ўвоз б/к шын у колькасці да 4 адзінак.

**Грошы**

Усталяваны парог абавязковага мытнага дэкларавання фізічнай асобай пры адначасовым увозе і вывазе наяўных грашовых сродкаў і (ці) дарожных чэкаў у агульнай суме, якая перавышае ў эквіваленце 10 000 даляраў ЗША.

Акрамя таго, пры перамяшчэнні фізічнымі асобамі праз мытную мяжу мытнага саюза наяўных грашовых сродкаў і (ці) грашовых прылад, якія належаць да абавязковага пісьмовага дэкларавання, прадугледжана занясенне ў мытную дэкларацыю дадатковых звестак пра фізічную асобу, якая перамяшчае грашовыя прылады, пра крыніцу наяўных грашовых сродкаў і (ці) грашовых прылад, пра мяркуемае выкарыстанне і г. д. Адменена патрабаванне пра прадстаўленне дазваленчых дакументаў.

З пералікам тавараў, якія не адносяцца да тавараў для асабістага карыстання, а таксама тавараў для асабістага карыстання, забароненых ці абмежаваных да ўвозу на мытную тэрыторыю мытнага саюза і (ці) вывазу з гэтай тэрыторыі можна азнаёміцца на сайце Дзяржаўнага мытнага камітэта gtk.gov.by.

Øàðêîâø÷ûíñê³ ðà¸í

# Õîöü ³ öÿæêà, àëå âûãàäíà

■ Чэслаў Якубовіч

**Сумная рэальнасць нашых дзён: на панадворках жыхароў нават буйных вёсак і тых жа хваленых аграгарадкоў цяпер у вяскоўцаў зусім мала сустрэнеш жывёласці.**

І толькі ў Шаркоўшчынскім раёне людзі ў сельскай мясцовасці яшчэ трымаюцца спрадвечнага ўкладу жыцця. Вось і ў вёсцы Більдзюгі з насельніцтвам меней паўтысячы чалавек пасвіцца ў полі гурт са 148 кароў. Штомесяц вяскоўцы прадаюць малака па 50 і болей тон, многія сем'і трымаюць не па адной, а нават па двое-трое кароў. Праўда, тут усе клопаты аб падтрымцы прысядзібных гаспадарак ужо даўно ўзяў былы калгас імя Кутузава ў часы працы тут раптоўна пайшоўшага з жыцця былога старшыні Сяргея Марціновіча. Але жывуць дагэтуль закладзеныя ім традыцыі. Гаспадарка, цяпер яна называецца СВК "Жвіранка", забяспечвае людзей сенам, добрымі ўчасткамі для пасьбы кароў і нават сваімі пастухамі. Гаспадыням застаецца толькі клапаціцца ў тэрмін падаіць сваіх рагуль, сустрэць іх з поля. У дадатак на ўчастках агульнага севазвароту вырошчваюць тут за сімвалічную плату зерне і бульбу сваім землякам. Таму і паглоўе жывёлы прыватнае ў гэтай вёсцы і ў цэлым па раёну вялікае і налічвае амаль 2700 кароў, хоць і старэе глыбінка.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

# Êóðãàí Äðóæáû ... çà ãðàí³öàé

■ Станіслаў Раманчук

**Вось ужо паўстагоддзя існуе традыцыя ў пачатку ліпеня ў Верхнядзвінскім раёне на стыку граніц з Расіяй і Латвіяй праводзіць шматтысячныя сустрэчы ветэранаў партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны.** Праўда, па іроніі лёсу сам гэты Курган, насыпаны яшчэ ў 1959 годзе, цяпер знаходзіцца на латышскай тэрыторыі і свабодны доступ да яго без уязной візы забаронены. Калі за савецкім часам такія мерапрыемствы праводзілі тады савецкія рэспублікі па чарзе, то зараз толькі беларусы з рускімі падтрымліваюць ранейшую традыцыю. Сёлета ва ўрачыстасцях ля помнікаў партызанскай славы ўдзельнічала каля тысячы чалавек, з якіх паўсотню чалавек прадстаўлялі афіцыйна латвійскія недзяржаўныя арганізацыі. Пагранічнікі Латвіі дазволілі перадаць суседзям толькі вянкі і кветкі ад сваіх ветэранаў на мастку на нейтральнай тэрыторыі і пільна сачылі за парадкам. На прайшоўшым мітынгу латышскі дэпутат Еўрапарламента Тацццяна Жданок паабяцала прысутным праз Брусель вырашыць гэту прыгранічную праблему аб допуску ветэранаў і жадаючых дайсці да месца свяшчэннай памяці. У астатнім усё прайшло як раней: гучалі песні, дыміліся шашлыкі, а ў спёку сабраўшыяся выпілі больш 400 літраў квасу і іншых напояў.

Ïàñòàâñê³ ðà¸í

# Óñå ¢ìîâû äëÿ ïàäðûõòî¢ê³

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у Паставах удалося стварыць нядрэнную базу для падрыхтоўкі спартсменаў высокага класу на мясцовым фізкультурна-аздараўленчым комплексе.** Толькі сёлета летам тут правяла свой вучэбна-трэніровачны збор жаночая маладзёжная зборная Беларусі па валейболе. Услед за дзяўчатамі сюды заехалі пачаць падрыхтоўку да стартуючага ў канцы жніўня ў нашай краіне фінала чэмпіянату Еўропы іх аднагодкі з мужчынскай валейбольнай зборнай Беларусі. У нацыянальную каманду, дарэчы, уключылі і маладога пастаўскага вельмі перспектыўнага 18-гадовага нападаючага Аляксея Рабеку, рост якога 202 см. Як пацвердзіў старшы трэнер зборнай РБ Сяргей Конанаў, менавіта тут для яго выхаванцаў створаны аптымальныя ўмовы для паўнацэннай падрыхтоўкі. Акрамя спрыяльных умоў для пражывання ў гасцініцы ФАКа і харчавання для валейбалістаў зборнай прадастаўлены ў распараджэнне гульнявы і трэнажорны залы, стадыён, а таксама сауна з турэцкай лазняй і басейнам у адным месцы. Падыходзіць для каманды мясцовы клімат, цішыня і ўтульнасць, настройвае на душэўны спакой прыгожы гарадскі парк па суседству. Гэта месца і раней выбіралі для падрыхтоўчых перадсезонных збораў зборныя Беларусі па валейболе, беларускія каманды майстроў па іншых відах спорту.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 15.07.10 | | | | пятн.16.07.10 | | | сб. 17.07.10 | | нядз.18.07.10 | | 19.07.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °С | +20 | +24 | +30 | +26 | +18 | +24 | +30 | +18 | +31 | +21 | +33 | +21 | +29 |
| Ціск, мм | 747 | 747 | 748 | 748 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 750 | 749 | 747 | 748 |
| Вільготнасць, % | 69 | 58 | 40 | 54 | 76 | 60 | 36 | 88 | 40 | 93 | 35 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю-В 3 | Ю-В 2 | Ю 4 | Ю 3 | Ю 3 | Ю 3 | З 2 | Ю 2 | Ю-З 2 | Ю 4 | С-З 5 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На поўдні краіны пачалася масавая ўборка рапса, а праз некалькі дзён пачнуць там уборку зерня. Да адказнай пары ў гаспадарках Беларусі паспелі адрамантаваць больш 80 % наяўных збожжаўборачных камбанаў, для закупкі паліва айчынным гаспадаркам выдзелілі бюджэтную ссуду ў памеры 550 млрд. рублёў. Беларусам удалося падпісаць дадатковае пагадненне з "Газпрамам" аб транспарціроўцы газу па сваёй тэрыторыі і павысіць тарыфы на паслугі па транспарціроўцы нафтапрадуктаў амаль на 13 %. Аднак адмоўнае сальда гандлю беларускімі таварамі сёлета за 5 месяцаў дасягнула ўжо амаль 2,8 млрд. долараў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Казахстан.** Са спазненнем на тыдзень Беларусь на фоне скандальных абставін усё ж далучылася да Мытнага саюза трох краін, якія стварылі адзіную мытную тэрыторыю.

**Англія.** Краіна ўвяла часовыя меры па абмежаванню ўезду кваліфікаваных імігрантаў з краін, якія не ўваходзяць у ЕС, па квоце за год сюды пусцяць не больш 24 тысяч чалавек.

**Польшча.** Кіраўніцтва ЕС дазволіла краіне выкарыстаць 390 млн. EUR са сваіх структурных фондаў на павелічэнне аб'ёмаў падземных сховішчаў газу да 2,6 млрд. куб.

**ЗША.** На фоне аб'яўленай "перазагрузкі" і паляпшэння адносін ЗША і РФ былі арыштаваны 10 чалавек па абвінавачванню ў шпіянажы на карысць Расіі, узнік скандал.

**Германія.** Толькі з трэцяй спробы прэзідэнтам краіны 623 дэпутаты Федэральнага сходу выбралі кандыдата ад правячай кааліцыі Крысціяна Вульфа на 5-ці гадовы тэрмін.

**Кыргыстан.** На рэферэндуме 90 % выбаршчыкаў падтрымалі новую Канстытуцыю, цяпер краіна стала парламенцкай рэспублікай замест прэзідэнцкай формы кіравання дзяржавай.

**Літва.** Згодна папраўвак да закона аб люстрацыі былыя сакрэтныя агенты КДБ да канца жыцця не змогуць займаць розныя кіруючыя пасады, калі не прызналіся аб сваім мінулым.

**Швецыя.** Краіна адмовілася ад прызыву ў армію ў мірны час, зрабіла стаўку на наёмнікаў і прафесійных ваенных, альтэрнатывай сталі добраахвотныя ваенныя курсы за 3 месяцы.

**Малдова.** Пасля абвяшчэння 28 чэрвеня Днём савецкай акупацыі Расія адразу знайшла "шкодныя" рэчывы ў малдаўскім віне, а мэр Масквы заклікаў да байкоту тавараў краіны.

**Польшча.** Правячая партыя "Грамадзянская платформа" на сваім з'ездзе зноў абрала сваім лідэрам прэм'ер-міністра Дональда Туска, пасада якога па значнасці важней прэзідэнцкай.

**Ісландыя.** Па новаму закону аб аднаполых шлюбах прэм'ер-міністр Йоханна Сігурдардотцір зарэгістравала шлюб са сваёй сяброўкай, раней у яе быў муж і ёсць 2 сыны.

**Расія.** Газета "Известия» параўнала масавую рассылку пісем лідэра РБ з "апофеозом политического чудачества" і нават раней лаяльны К. Затулін назваў яе "нетактичной".

**КНДР.** ВУП краіны (25 млрд. USD) скарацію́ся ўжо да 2,7 % аналагічных паказчыкаў паўднёвай Карэі, гадавыя даходы насельніцтва тут у 20 разоў меншыя, чым у суседзяў.

**Швейцарыя.** Кампанія "Frank Muller" у сакавіку 2011 года выпусціць у Мінску на гадзіннікавым заводзе новую партыю сваіх сумесных з ім гадзіннікаў "Прамень".

**Сінгапур.** На вышыні 340 метраў на даху комплекса гатэляў сталіцы адкрыўся ўнікальны забаўляльны цэнтр "Нябесны парк" з 3-мя басейнамі, некалькімі паркамі і казіно.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Новая прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі па закону, як пацвердзіла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, павінна пачацца не пазней 6 лістапада гэтага года.

**Салігорск.** На тэрыторыі РУП ВА "Беларуськалій" літоўская фірма "Arvi ir ko" пачынае будаўніцтва сумеснага завода па вытворчасці складаных угнаенняў на 240 тысяч т у год.

**Мазыр.** На перапрацоўку на мясцовы НПЗ паступіла чарговая партыя венесуэльскай нафты маркі "Санта Барбара", яе цана дагэтуль невядомая, затраты на дастаўку вялікія.

**Мінск.** З улікам суровай зімы і зацяжных дажджоў вясной сёлета ў Беларусі, як адзначыў міністр сельскай гаспадаркі М. Русый, валавы збор зерневых культур складзе 9 млн. тон.

**Зельва.** На рэалізацыю праекта коштам 2 млрд. USD па будаўніцтву тут вугальнай электрастанцыі магутнасцю 660 МВт пойдзе 3 гады, створаць яшчэ тры СП з Польшчай.

**Мінск.** Ад продажу часткі пакета акцый "Беларуськалія" інвестару з Кітая, як зазначыў 1-ы віцэ-прэм'ер У. Сямашка, урад Беларусі разлічвае зарабіць прыкладна 6-7 млрд. USD.

**Мядзель.** У найбольш вядомы ў Беларусі лагеры "Зубраня" пачалі будаўніцтва Дома дзіцячай творчасці са стадыёнам і яшчэ аднаго спальнага корпуса на 165 месц для дзецей.

**Жлобін.** Амаль 5 тысяч курэй загінулі ноччу ў птушніках мясцовай птушкафабрыкі ў вёсцы Саланое з-за адключэння электраэнергіі пасля абрыву лініі электраперадач.

**Магілёў.** Міліцыя раскрыла ў горадзе цэлую сетку падпольных гандляроў фальшывымі спіртнымі напоямі, іх разлівалі ў бутэлькі з сурагатаў ведкасцей, прывезеных з Расіі.

**Мінск.** Генпракурор Беларусі прадоўжыў яшчэ на 2 месяцы тэрмін утрымання пад вартай свайго старшага следчага Святланы Байковай, якую арыштавалі сёлета зімой КДБ.

**Ждановічы.** З-за парушэння тэхналогій правядзення дэзінфекцыі на агракамбінаце вокіс серы трапіў у паветра і атруціў шэраг жыхароў міраpаёнаў сталіцы Бор і Сухарава.

**Гродна.** Група дэпутатаў звярнулася з ініцыятывай у парламент краіны надаць Гродна статус горада-музея Беларусі, бо тут знаходзяцца 843 старажытныя будынкі, шмат музеяў.

**Мінск.** Былы прэзідэнт Кыргыстана Курманбек Бакіеў прызнаўся, што ў Беларусі ён з сям'ёй жывуць поўнасцю за свой кошт, аплочваюць усе бытавыя расходы самі.

**Бабруйск.** Сусветна вядомая фірма "Adidas" зноў размясціла буйны заказ на фабрыцы "Славянка" па пашыву спартыўнага адзення за 3 месяцы на суму 300 тысяч долараў.

**Жодзіна.** З-за надзвычай моцнага ліўня ўпершыню ў гісторыі чэмпіянатаў Беларусі па футболе тут не адбыўся матч 18 тура з "Нафтанам", яго перанеслі на больш позні тэрмін.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ àáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Да сёлетняга жніва гаспадаркі вобласці атрымаюць яшчэ 500 новых камбайнаў "Гомсельмаша", з іх улікам парк тэхнікі складзе 2100 адзінак, нагрузка на адзін - 210 га.

**Наваполацк.** З-за новых умоў паставак расійскай нафты ў складаным становішчы апынулася ААТ "Нафтан", за паўгода яе перапрацавалі 3 млн. тон, а летась - каля 11 млн.

**Орша.** На мясцовым сырзаводзе запусцілі новую аўтаматычную лінію па выпуску 5 тысяч порцый марожанага ў гадзіну 12 найменняў, вытворчасць яго адразу вырасла на 20%.

**Лепель.** У параўнанні з мінулым годам экспарт сухога малака мясцовага МКК вырас болей чым у 2 разы, палову яго гадавога аб'ёма – 4500 тон, сёлета адправяць на продаж у Венесуэлу.

**Віцебск.** Некалькі дзесяткаў бамжоў падчас "Славянскага базара" міліцыя вывезла з горада ў медустановы вобласці, на канцэрты можна было трапіць праз 28 КПП дагляду.

**Полацк.** Падчас земляных работ на рагу вуліц Каліноўскага і Гагарына знайшлі 3 снарады 76 міліметраў часоў Айчыннай вайны, сапёры знаходку абясшкодзілі і знішчылі потым.

**Лепель.** Участковаму інспектару мясцовага РАУС Віктару Ерашову ў Мінску кіраўнік краіны ўручыў медаль "За заслугі ў ахове грамадскага парадку" за затрыманне злачынцы.

**Віцебск.** Адразу трое будучых маладых урачоў, выхаванцаў мясцовага дзяржаўнага медуніверсітэта сталі ўдзельнікамі Рэспубліканскага баля выпускнікоў ВНУ краіны.

**Мёры.** Камбікормавы завод пачаў узвядзенне дадатковага сучаснага аўтаматызаванага зернесушыльнага комплекса для захоўвання 6 тысяч тон зерня новага ўраджаю.

**Доўжа.** Мясцовая біяфабрыка ветпрэпаратаў каля Віцебска прыняла ўжо на працу 230 чалавек, для спецыялістаў пабудавалі першы жылы дом, будуюцца яшчэ некалькі.

**Полацк.** На базе СШ №4 адкрылася кадэтская вучылішча і пачало набор навучэнцаў, яго выпускнікі змогуць вучыцца далей у Ваеннай акадэміі РБ і іншых ваенных ВНУ краіны.

**Паставы.** Сітуацыя на рынку працы ў раёне стала адной з найгоршых у Беларусі, на адну свабодную вакансію прэтэндуюць 4,2 беспрацоўных, сёлета стварылі 238 месц для працы.

**Віцебск.** Суд Чыгуначнага раёна пакараў 3 гадамі абмежавання волі маладога гараджаніна за прадастаўленне сканера знаёмаму для вырабу фальшывых рублёў наміналам 20 тысяч.

**Наваполацк.** На стадыёне "Атлант" адкрылі запаснае поле са штучным газонам, а ў 7 км ад горада – сучасную трэніровачную базу для ФК "Нафтан" з басейнам і сталовай.

**Віцебск.** Ратуючы сваю дачку падчас купання за горадам на Заходняй Дзвіне патануў 44-гадовы мужчына, за адзін тыдзень сваю смерць у вадзе знайшлі 12 жыхароў вобласці.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**6-7 млрд. $** - за такую суму, як было нядаўна афіцыйна заяўлена дэпутатам ніжняй палаты Нацыянальнага сходу, кіраўніцтва Беларусі разлічвае прадаць мінарытарны пакет акцый аднаго з стратэгічных прадпрыемстваў краіны – "Беларуськалія". Ужо і зрабіўшы такую заяву дакладчык, першы віцэ-прэм'ер урада РБ Уладзімір Сямашка не стаў хаваць, што дзяржаве патрэбны такія агромістыя "бясплатныя" грошы для патрэб бюджэту. Па ягоных словах гэта лепей за нават самыя выгадныя крэдыты, Па адпаведнаму пытанню раней прайшла яго рабочая сустрэча на вышэйшым узроўні з А. Лукашэнкам, бо пэўныя змены з-за пазіцыі расійскіх акцыянераў чакаюць неўзабаве і партнёра салігорскіх гарнякоў – "Беларускую калійную кампанію ( ЗАТ "БКК"). Аднак яшчэ ўчора ў нас нават заікнуцца аб магчымай прыватызацыі такога гіганта айчыннай эканомікі ніхто з чыноўнікаў не рашаўся. Акцыяніраванне "Беларуськалія" тым не менш прайшло з рэкорднай хуткасцю, а верхняя палата парламента толькі 30 чэрвеня дала сваю згоду на вывад яго з пераліку стратэгічных аб'ектаў, забароненых да прыватызацыі.

Адзінае, што сакрэтнымі застаюцца звесткі аб яго камерцыйным кошце. Праўда, беларускае кіраўніцтва не стала хаваць, што кантрольны і нават блакіруючы пакет, як і кіраванне над ім, Беларусь не аддась. А вось вядома, што найбольш верагодным пакупнікам гэтага буйнога прадпрыемства стане Кітай, адзін з асноўных пакупнікоў беларускіх калійных угнаенняў. Дасведчаныя эксперты аднак сумняваюцца, што па такой вялікай цане беларусам удасца прадаць частку акцый свайго айчыннага калійнага гіганта, які прадае на сусветным рынку 16 % угнаенняў.

Справа ў тым, што ў чэрвені ўжо быў прададзены за 5,3 млрд. $ кантрольны пакет яшчэ аднаго сусветнага вытворцы і партнёра ЗАТ "БКК" – "Уралкалія", кантралюючага 10 % сусветнага рынка. Але буйныя кітайскія кампаніі China Blue і холдынг Sinofert са згоды свайго ўрада атрымалі паўнамоцтвы на правядзенне адпаведных перамоў з беларускімі партнёрамі. У пачатку года аднак агучвалася істотна меншая сума магчымых інвестыцый, усяго толькі 2 млрд. $.

Ды і ў пасткрызісны перыяд разлічваць на ўдалыя падобныя здзелкі не вельмі выпадае. Пасля абвалу сусветнага фінансавага рынку, напрыклад, кошт калійных угнаенняў у свеце ўпаў у 2 разы, а кошт акцый калійных кампаній зменшыўся ў 4 разы. Такім чынам, айчынныя ўпраўленцы, хутчэй усяго, марацт нерэальна аб такіх высокіх барышах. Ды і з тымі ж кітайцамі па любых пытаннях перамовы весці няпроста. Яны ведаюць сабе цану, адстойваюць кожны долар і выдатна арыентуюцца, што робіцца на адпаведных рынках у свеце.

У дадатак да ўсяго расце вытворчасць калійных угнаенняў і ў самім Кітаі, на пяткі яму наступае яшчэ адзін з сусветных лідэраў калію – Індыя. Адзінае, што тут можа быць вялізная геапалітычная гульня, бо калі аб'ядноцца цяперашнія члены БКК – "Беларуськалій" і "Уралкалій" з яшчэ адной уплывовай расійскай кампаніяй – "Сільвініт", то доля гэтай структуры на сусветным рынку калію магла б дасягнуць 42 %. Адзінае, што такое магчыма пры ўмове адабрэння на ўзроўні дзяржпадтрымкі вышэйшага кіраўніцтва РБ і РФ, дзе пакуль існуе ва ўзаемаадносінах пэўнае напружанне.

Пакуль беларускі ўрад разлічвае, што такая прапанова зацікавіць буйны кітайскі бізнес. Існуе пры гэтым пагроза, што на ўласнай зямлі мы з цягам часу можам самі вырасціць яшчэ аднаго моцнага канкурэнта "Беларуськалію". На яго тэрыторыі можна пабудаваць завод па вытворчасці складаных угнаенняў. Увогуле, цяпер розных інтрыгуючых момантаў у жыцці багата.

Так ці інакш у бліжэйшай перспектыве ўсе яны праекцыруюцца на набліжаючыся прэзідэнцкія выбары, у паспяховым выхадзе якіх для сябе не сумняваецца шматгадовы цяперашні беларускі лідэр. Адзіная загвоздка, невядома, калі такая падзея адбудзецца. Галасаванне, магчыма, пройдзе ў перыяд не раней 5 снежня 2010 г. і не пазней да 6 лютага 2011 г. Да гэтага часу мы будзем больш дакладна ведаць, які далейшы лёс чакае аднаго з флагманаў і донараў дзяржбюджэту – РУП "Беларуськалій".

*У працяг тэмы распачатай ў «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г.*

# Ігнапаль і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Вось я і пазнаёміў сябе, не чакаючы калі мне, як бязроднаму пададуць ці не пададуць руку, а падаў сам першым. Даўней, каб узвысіцца – жаніліся на гербовай, гэта значыць, радавітай, у якой быў свой герб, бо казалі: "Пакажы свой герб, і я скажу, хто ты". Так утварыліся падвойныя прозвішчы, бо жаніўшыся на гербе, каб паказаць, што і ён адносіцца да гэтага гербу, прыклеівалі і сваё прозвішча. Напрыклад, Корвін-Мілеўскі, на землях якога будуюць цяпер новую беларускую атамную станцыю. Вось і я – не зусім абы што. Я Генадзь Грыгоравіч-Трахімавіч.

Гэта цяпер, пасля амаль стогадовага савецкага зацішша, калі ўсе сядзелі як мыш пад венікам, павылазілі графы, князі. Хітрэйшым аказаўся Барыс Галкін – ён аказаўся баронам. Але, пачакайце, мой бацька апярэдзіў яго. Калісьці пры панскай Польшы адзін сусед сказаў майму бацьку: "Ну які ты Камель, ты – пень, ну як прыдумаеш якую-небудзь хрэнь". А прыдумаў ён вось што. Выседжвала курыца куранят, а ён падкінуў ёй некалькі яек дзікай качкі. Вось і бегае курыная мама і крычыць ад спуду, бо яе некаторыя кураняты палезлі тапіцца. На заўвагу суседа мой бацька адказаў: "Я табе не які-небудзь карэец, у якога застанецца Пном-Пень, сам ты – пень-пнём, я – лорд. У лорда Кромвеля быў пазашлюбны сын. Ён пасаромеўся назваць сына сваім прозвішчам, вось і атрымаўся Комель".


в. Узрэчча, мост праз р. Дабрылаўку і спадар Комель.

*Фота Ул. Скрабатуна.*

Пісьменнік Уладзімір Ліпскі на сваёй радзіме ў Аўцюках праводзіць фестывалі гумару. Уладзімір Сцяпанавіч! Ды ўся Беларусь гумарная! Ад веку. І па ўсёй вертыкалі, ад верху да нізу. Памятаеце, як пан пытаўся у аканома: "Ну, як сяляне?" – "Стогнуць ад цяжару падаткаў." – "Дабаў!" Другі раз: "Стогнуць!" – "Дабаў." Трэці раз: "Смяюцца!" – "Стоп! Далей некуды!" Гумар выратаваў.

Ну, што ж, пара знаёміцца з маімі Аўцюкамі, гэта значыць – з Ігнапалем. Для гэтага нам паслужыць арыентырам ужо знаёмая нам сасна Напалеона. Яна – праваруч ад мяне. Я стаю на бальшаку, па якім рухаліся шведы і Напалеон, з Пастаў на Мосар, Майсюціна, Пятроўшчыну, Узрэчча і на Лужкі – Дзісну. У вёсцы Майсюціна быў цудоўны драўляны мост, па якім я яшчэ дашкольнікам бегаў у Мосар на фэст, на Купалле, альбо яшчэ далей – у фальварак Арцёма Зубкі, бацькі маёй мамы, – Грунвальды, дзе побач была падобная сасна і вёска таксама з назовам Жарсцвянка.

Майсюціна – "вёска 99 дзяўчат". Пасля вайны тут было столькі жыхароў, што на ўсіх не хапала працы. Каб зарабіць працадзень, ды пазбегнуць штрафаў, ім прыходзілася працаваць у дзве змены! Дык вось, гэты мост у Майсюціне ў 1944 годзе партызаны, зрабіўшы дыверсію, ноччу спалілі, а раніцай савецкія танкі не змаглі прайсці на Мосар.

Тое пакаленне не замаліла свае грахі – не адбудавала мост, а новае – не ведала і не хоча ведаць. Іх прывучылі жыць у віртуальным свеце, яны лічаць, што на сайтах ёсць усё, і гэтага дастаткова. Мне апавядаў высокапастаўлены чыноўнік ад спорту... У іх аўтатранспарт ёсць, бензін ёсць, кампашку можна заўсёды сабраць, ды паехаць, паназіраць цудоўную прыроду, а што гэта складае мо 5 адсоткаў (%) ад таго матэрыялу, які можна знайсці ў архівах, і толькі потым паглядзець на мясцовасці, для іх гэта – ноль без палачкі.

Вось яны і знайшлі на сайце вёску Мосар, дзе ксёндз Булька зрабіў цудоўны куточак. Узялі яны і разгарнулі мапу Беларусі, знайшлі *Мосор*. Селі. Паехалі. Прыехалі. Ходзяць па вуліцах вёскі *Мосор** і нічога падобнага на тое, што бачылі на сайтах, не знаходзяць. Розніцы ў напісанні мясцовасці на сайце і шыльдзе яны адразу і не заўважылі. Ды й што тут такога, калі літара "о" заменена на "а", гэта цяперашняя звычайная з'ява пры польска-рускай тарабаршчыне ў СМІ і ледзьве не штогадовай змене правапісу. Вось як увойдзе ў дзеянне ўказ з першага верасня, тут ужо будзе тугавата, асабліва мне, які перастаў звяртацца і запамінаць змены назоваў вуліц, тым больш, правапісу. Ну, навошта мне такія стрэсы ў сваіх 77 год. Еду з цэнтру Мінска ў Шабаны. Ужо амаль на выездзе з гораду. Задумаўся і амаль задрамаў. Чую, аб'яўляюць у аўтобусе: "Наступны прыпынак – Варвашэні". Аж сэрца скаланулася, думаю: "Як жа я праспаў разварот аўтобуса і еду назад?" Але вернемся да расказу гора-вандроўнікаў. На вуліцы людзеў не відно, запытаць няма ў каго. Натыкнуліся на вясковую краму, заходзяць, а там толькі адна прадаўшчыца. Ну вось, адзін мой разумнік прама з парога й запытаў: "Ну. какие у Вас достопримечательности?" Вы б бачылі жанчыну-прадаўца, яна характэрным жаночым рухам дзвюх рук прыпадымае грудзі: "Ну якія тут достапрімечательносці!?"

Я пытаюся: "Ды што ж такое ў Вас прыключылася?". "А мы – кажа ён, заехалі кіламетраў 30 за Лепель". "Ну, зразумела" – кажу я – толькі патрэбна было праехаць яшчэ кіламетраў 20, знайсці вёску Гомель* на возеры Гомель і шукаць палац Пашкевічаў!"

А вось другі прыклад. Я апавядаю пра наступную вандроўку. Мой суразмоўца ўважліва слухае й кажа: "Добра, я падумаю". Праходзіць пару дзён. Званок. І я чую ў тэлефоне ад чалавека з акадэмічнай адукацыяй: "Я тут усё пералапаціў і нічога падобнага не знайшоў". Я пытаюся: "А Вы на сайт, альбо ў друк што небудзь закінулі?" Маўчанне. Я таксама нічога не закінуў, а ў Адама і Евы сайтаў не было.

Але вернемся да добравядомай напалеонаўскай сасны. Як мы дамовіліся, яна ў нас – праваруч. Прама на поўнач ідзе сучасная дарога па наноў выкапаных меліярацыйных каналах, але амаль па старых мясцінах. Яна ўпіраецца ў балота, у непраходнае балота ад Паставаў да Дзісны, і ў рэшткі вялікага возера, на берагах якога мо чатыры стагоддзі назад была вёска Раманчукі. Раманчукі двойчы гарэлі і двойчы перасяляліся на новыя месцы.

Якраз насупраць сасны дарога робіць адгалінаванне ўлева, як мы любілі мовіць: "Дарога раздвайваецца." Вось гэтае адгалінаванне-дарога – амаль адзінае акно ў сусвет для жыхароў хутароў Махавік і Марцянова. А на землях Яна Раманчука ("Аргенцінца", у якога было 40 га зямлі на хутары Махавік) ад гэтай дарогі па землях майго Ігнапаля, па землях хутара Жарсцвянкі Шварцкопфа дарога на ўсход выходзіла на напалеонаўскі бальшак.

Некалькі лявей майго хутара купіў 25 га ў пана Корсака Таўкач Іван Спірыдонавіч. Усе ведалі, што нарадзіўся ён у Шаркоўшчынскім раёне, што ён быў у нямецкім палоне яшчэ ў тых немцаў, хутчэй за ўсё – у 20-м годзе, пры паходзе Гая на Варшаву. Міхась Машара добра апавядае ў сваім рамане "Ішоў 20 год" пра гэты паход Гая.

У Івана Спірыдонавіча было некалькі братоў, у тым ліку Герасім Спірыдонавіч, які ўдзельнічаў у падаўленні Кранштадскага мецяжу. Як высветлілася, у сучасны момант у Глыбокім жывуць дзве дачкі Герасіма Спірыдонавіча.

** Вёска з падобнай назвай існуе ва Ушацкім раёне.*

** Вёска Гомель існуе недалёка ад Полацка.*

# Асфальт і пякучае сонца – не лепшы варыянт

## *Выстава сабак у Глыбокім.*

**Я. Самсонаў**

Амаль пяць гадзін, з невялікім перапынкам, доўжылася, стаўшая ўжо традыцыйнай, рэгіянальная выстава сабак усіх парод у Глыбокім, якая праводзілася 11 ліпеня на Цэнтральным пляцы.

73 сабакі ( 32 пароды) з Беларусі і замежжа (Расіі і Прыбалтыкі) спаборнічалі за званне лепшага ў сваёй групе, узроставым класе і ўрэшце рэшт – чэмпіёна выставы.

Спякота, амаль 35 па Цэльсію. Цяжкавата прыходзілася выконваць практыкаванні братам нашым меншым у сваіх махнатых футрах. Не лягчэй было і кампетэнтным экспертам, двум Таццянам – Чумакінай і Раманоўскай. Але, амаль усе ўдзельнікі з гонарам справіліся са сваімі абавязкамі. Нават парадавалі гледачоў паказальнымі выступамі і шоў – касцюміраваным балем.

І вось інтрыгуючая развязка. Вядучая і арганізатар выставы Галіна Стралкова, старшыня Беларускага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання аматараў жывёлаў "Сірыўс", агучыла вынікі калегіяльнага вердзікту экспертаў.

6 месца – белая швейцарская аўчарка; 5 месца – ёркшырскі тэр'ер; 4 месца – лабрадор-рытвіер; 3 месца – карлікавы шпіц – уладальнік Т. Гарэлава (Полацк); 2 месца – абрыкосавы пудзель – уладальнік Capligina (Латвія). Чэмпіён выставы – белы цвергшнаўцэр – уладальнік Ляўчук (Маладзечна).

З амаль двух дзясяткаў нашых землякоў, глыбоцкіх сабакаводаў-аматараў, нікому не ўдалося трапіць у апошнюю намінацыю. Але гэта не адмоўны паказчык, а хутчэй за ўсё, наадварот. Бо з кім і ў якім рангу спрачаліся? Некалькі дзясяткаў кабялёў і сучак неаднойчы пабывалі на міжнародных выставах і маюць узнагароды Еўрапейскага і Сусветнага маштабу. Эксперты і арганізатар выставы далі высокую адзнаку працы Глыбоцкага клуба сабакаводаў, дзякавалі за гасцінны прыём і дабразычлівасць, выказалі пажаданне абавязкова арганізаваць выставу і ў наступным годзе.

Што-ж, калі ласка! Якраз да таго часу ў поўнай сіле будзе дзейнічаць стадыён, ці вырашыцца пытанне з іншай пляцоўкай для выставы сабак, бо Цэнтральны пляц, асфальт і пякучае сонца – не лепшы варыянт.






**На здымку злева: Сабака, пераможца выставы з гаспадыняй Ляўчук, у другім шэрагу эксперты Т.Раманоўская, Т. Чумакіна, арганізатар Г.Стралкова.**

# Этна-трыю «Троіца» прадставіла на канцэрце ў Віцебску некалькі прэм`ерных песень

Вечарам 11 ліпеня ў межах XIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» адбыўся канцэрт этна-трыю «Троіца». Гэта было першае сольнае выступленне вядомага беларускага калектыву на віцебскім фестывалі. Канцэрт прайшоў на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

Амаль двухгадзіннае выступленне атрымалася вельмі цёплым і яркім. Гледачы доўга не хацелі адпускаць са сцэны артыстаў, і яны тройчы выходзілі на біс. «Трэба было аб`ехаць 80 фестываляў па ўсім свеце – ад Малайзіі да Партугаліі, каб нарэшце і на радзіме зрабіць такі канцэрт», – расчулена прызнаўся лідэр этна-трыю Іван Кірчук.




На пачатку канцэрта гэты нефарматны для «Славянскага базару», на думку многіх, калектыў прадставіў прэм`еру трох песень – «Як з двара-двара», «Марыя» і «Калыханка», якія рыхтуе ўключыць у свой новы альбом. «Плануем хутка зрабіць новы кампакт-дыск, праўда, пакуль не ведаем дзе», – паведаміў гледачам Кірчук.

На канцэрце таксама прагучалі кампазіцыі з папярэдніх альбомаў «Жураўлі», «Сон-трава», «Жар-Жар». Падчас выступлення лідэр гурту расказваў гледачам аб беларускім фальклоры. Напрыклад, распавёў аб тым, што на старадаўніх вяселлях гучала каля 400 песень. «Напэўна, таму нашы продкі жылі доўга і не разводзіліся», – сказаў Кірчук. Рыхтуючыся спець вядомую кампазіцыю «Тры Янгалы», ён падзяліўся, што на сайце «Троіцы» яе паглядзелі 34 тысячы наведвальнікаў.

Да прыезду на «Славянскі базар» гурт у апошні раз выступаў у Віцебску два гады таму, у маі 2008-га – на канцэрце вядучых айчынных фольк-калектываў у Летнім амфітэатры разам з «Палацам» і Osimira. Як паведамляецца на афіцыйным сайце «Троіцы», адразу ж пасля віцебскага фестывалю, 17 ліпеня, этна-трыо адправіцца на знакаміты штогадовы фестываль беларускай альтэрнатыўнай і рок-музыкі «Басовішча» ў Польшчу.

*Тацяна Мацвеева, БелаПАН.*

# У Верхнядзвінску адбыўся злёт праваслаўнай моладзі

Больш за сотню чалавек прынялі ўдзел у злёце праваслаўнай моладзі Полацкай епархіі, які адбыўся 8 ліпеня ў Верхнядзвінску, паведамляе sobor.by

Архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій адслужыў у Свята-Мікалаеўскай царкве малебен з акафістам святым Пятру і Феўроніі Мурамскім, якія вызнаюцца Праваслаўнай Царквой за апекуноў шлюбу і сям'і. У Верхнядзвінскім райвыканкаме ў гэты ж дзень адбыўся круглы стол, прысвечаны каштоўнасцям хрысціянскай сям'і.

У апошнія гады дзень успаміну святых Пятра і Феўроніі стаў шырока адзначацца ў Рускай Праваслаўнай Царкве як дзень сям'і, кахання і вернасці. Традыцыя пашыраецца і ў Беларусі. Так, у Мінску праваслаўныя вернікі раздавалі мінакам рамонкі і брашуры з расповедам пра хрысціянскія каштоўнасці ў жыцці сям'і.



# Мінкультуры паслала рыцараў на Грунвальд

**Міністэрства культуры Беларусі прафінансавала ўдзел беларусаў у інсцэніроўцы Грунвальдскай бітвы.**

194 прадстаўнікі беларускіх рыцарскіх клубаў накіраваліся ў пятніцу ў Беласток для ўдзелу ў свяце «Канцэнтрацыя войск Вялікага княства Літоўскага». Гэта сустрэча і прэзентацыя рэканструкцыі гістарычных гуртоў з Польшчы, Беларусі, Літвы. З Беластока рыцары разам рушаць на Грунвальдскае поле, дзе 17 ліпеня адбудзецца інсцэніроўка вялікай бітвы.

1410

## ТРУБА ГРУНВАЛЬДА

*Мар'ян Даргель*

О дзе ж ты дзе, труба Грунвальда,
У якім кургане спіш - ляжыш?
А можа ў свеце дзе астральным,
Завеш на бой, грыміш.

Была ты голасам прарокаў.
За праўду продкаў у бой вяла,
Трубіў анёл у цябе з аблокаў,
Каб крыўда праўды не змага.

Была ты краю абярогам,
Пакуль не абразіў Бога пан,
Гуляў і з д'ябла дапамогай,
Свой край згубіў як лотр каптан.

Згубіў сваю душу і мову,
За трыцаць срэбнікаў прадаў.
Сваей Радзімы нават слова,
Абцасам точаным таптаў.

Ты па вясне не раз грымела,
За Кастусём вяла народ,
Затым узняў цябе Купала,
І стаў збіраць наш край на сход.

Грымі цяпер, край ужо свабодны.
Не дай яго нам зноў згубіць.
У жылы лі нам дух свабоды,
Каб годным кожны мог бы быць!



# Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы Першы канал рыхтуе прэм'еру дакументальнага серыяла Grunwald

Да 600-годдзя адной з самых значных падзей Сярэднявечча – Грунвальдскай бітвы – Першы канал прадставіць прэм'еру пяцісерыйнага дакументальнага цыкла Grunwald. Прэм'ерны паказ пройдзе 12–18 ліпеня.

Як паведамляе прэс-служба Белтэлерадыёкампаніі, праект ахоплівае 1400–1410 гады – перыяд, што папярэднічаў вайне паміж рыцарамі Тэўтонскага ордэна і Вялікім княствам Літоўскім у саюзе з Каралеўствам польскім, а таксама саму вайну, вырашальнай бітвай якой 15 ліпеня 1410 года стала Грунвальдская бітва.

Дакументальны серыял прадстаўляе гістарычны экскурс з элементамі рэканструкцыі ў Вялікае княства Літоўскае, Польскае каралеўства і Тэўтонскі ордэн, распавядае аб прычынах вайны, самой Грунвальдскай бітве, адносінах бакоў, якія бралі ўдзел у канфлікце, дае характарыстыкі гістарычным асобам.

Здымкі серыяла праходзілі на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Аўтар сцэнарыя фільма – аглядальнік Агенцтва тэленавінаў Белтэлерадыёкампаніі Максім Кароткін, рэжысёр – Анастасія Кужоўнік.

*Тацьцяна Дарашчонак, БелаПАН.*

ЗАПРАШАЕМ НА СВЯТА

# «ФЭСТ на ДЗЯДКУ»!

18 ліпеня 2010 года адбудзецца свята
**«Тут радзімы маёй пачатак»**
Месца правядзення - урочышча «Дзядок» (па дарозе Пятроўшчына - Капыльшчына, 7-ы км.) Пачатак а 13-00 гадзіне.

**У праграме:**

1. Тэатралізаванае прадстаўленне:
- сямейныя дынастыі
- лепшыя сядзібы
- канцэрт (квартэт «Каліна», народны фальклорны калектыў «Купалінка», Шаркоўшчына)
2. Канкурс (конна-спартыўныя спаборніцтвы), таталізатар.
3. Аукцыён - дровы, куры і інш.
4. Спартыўныя спаборніцтвы.
5. Выстава-продаж вырабаў народных умельцаў.
6. Фота-выстава:
- ФЭСТ на Дзядку
- лепшыя сядзібы
- сямейныя дынастыі

*Арганізатары: Узрэцкі і Залескі сельвыканкамы, СВК «Залатая падкова», СВК «Пятроўшчына», Узрэцкае лясніцтва, ААТ 'Глыбоцкая птушкафабрыка».*

Для Вас будуць працаваць гандлёвыя кропкі Глыбоцкага Райпо, ААТ 'Глыбоцкая птушкафабрыка», ААТ «Глыбоцкі мясакамбінат», індывідуальных прадпрымальнікаў.
**Адпачніце разам з намі!**

# 100 год Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*

# Віншаванкі

*Таццяну Эйфрыдаўну Будзін*

**Сардэчна віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть Ангел жизнь твою хранит,
Беда пускай тебя не знает,
Пусть горе от тебя бежит,
Друзья пускай не обижают,
И чтобы всем врагам назло
Тебе всегда во всём везло.
Желаем всегда оставаться счастливой,
Весёлой, хорошей, здоровой, красивой.

*Сястра і яе сям'я.*

*Алега Мікалаевіча Вашчонка*

**Віншуем з 50-годдзем!**
**Любімы, дарагі мой Алежка!**
**Віншую цябе з юбілеем! Моцнага табе здароўя, кахання, шчасця і дабрабыту.**

Я знаю – нелегко найти таких, как ты людей,
Ты согреваешь сердце мне улыбкою своей…
Всегда стараешься понять, утешить, подбодрить,
Печаль и радость ты готов со мною разделить,
Тебе доверить я могу заветные мечты…
Мне очень, очень повезло, что у меня есть ты.

*Людміла.*

## Падзяка

Хочацца выказаць падзяку начальніку ўчастка вадаканала ЖКГ **Віталю Іванавічу Сіваму** за вельмі добрыя адносіны пад час рамонту калонкі па вул. Савецкай.

*З павагай С. С.Гуменнік.*

# Рыбы яны здабыць не паспелі, але пакаранне панясуць сур'ёзнае

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**За 6 месяцаў 2010 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету перарвана 177 правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, па 8 парушэннях узбуджаныя крымінальныя справы, 7 з якіх за незаконную лоўлю рыбы, 1 крымінальная справа за незаконнае захоўванне агнястрэльнай зброі і боепрыпасаў.**

Асноўная маса выяўленых правапарушэнняў – 116, парушэнне Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у парушальнікаў канфіскавана 74 рыбалоўныя сеткі, агульнай даўжынёю 3 км 190 метраў, 28 адзінак іншых прылад рыбалоўства (мярожы, броднікі, пад'ёмныя сеткі), 121 кг незаконна здабытай рыбы. Пераравана 17 парушэнняў Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, у парушальнікаў канфіскавана 120 кг мяса дзічыны, 6 адзінак агнястрэльнай зброі, 2 з якіх незарэгістраваныя, выяўлена 28 парушэнняў лесакарыстання, канфіскавана 9 куб.м. незаконна нарыхтаванай драўніны, 21 пратакол за іншыя правапарушэнні, асноўная маса з якіх, за выкід смецця. За 6 месяцаў 2010 года на тэлефон «гарачай лініі» міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла 31 паведамленне пра здзейсненыя правапарушэнні, усе яны праверены, складзена 42 пратаколы, узбуджана 3 крымінальныя справы.

Так, 11 чэрвеня 2010 года ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю паступіла паведамленне ад грамадзян пра тое, што на возеры Шо Глыбоцкага раёна ўсталяваныя браканьерскія сеткі. Выбылай рэйдавай групай міжрайінспекцыі каля 24 гадзін ночы затрыманы 2 жыхары г. Полацка, якія пры дапамозе 16 сетак незаконна здабылі 216 асобінаў розных відаў рыб, шкода прычыненая прыродзе склала больш 6 млн. рублёў. Глыбоцкім РАУС узбуджана крымінальная справа па ч.4 арт.281 КК РБ і парушальнікаў чакае пакаранне, да 6 гадоў пазбаўлення волі.

19 чэрвеня 2010 года супрацоўнікам інспекцыі патэлефанаваў невядомы грамадзянін, які паведаміў, што на рацэ Аржаніца недалёка ад в. Прыпернае Глыбоцкага раёна 3 грамадзянаў ловяць рыбу з дапамогай бродніка. Выбылая рэйдавая група затрымала парушальнікаў, рыбы яны здабыць не паспелі, але пакаранне панясуць сур'ёзнае.

Такіх прыкладаў узаемадзеяння інспекцыі з насельніцтвам можна прывядзіць вельмі шмат, грамадзяне ўсё часцей паведамляюць пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, за што велізарны ім дзякуй. Супрацоўнікі інспекцыі заўсёды правяраюць паведамленні і прымаюць да парушальнікаў самыя строгія меры адказнасці.

З наступам тэрмінаў збору ягад чарніцы, а ў далейшым брусніцаў і журавінаў, грамадзяне масава пайшлі ў лес, але не ўсе выконваюць правілы збору ягад, асобныя грамадзяне ўжываюць «камбайны», «грабянцы», якія для збору дзікарослых ягад забаронены, паводле часткі 13 п.80 Правілаў нарыхтоўкі і збору дзікаросых ягад і грыбоў зацверджаных Пастановай Міністэрства лясной гаспадаркі РБ ад 20 сакавіка 2001 года № 4. За збор ягад і грыбоў з дапамогай грабянца парушальнік можа быць падвергнуты штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь і пакрыццём шкоды за кожны сабраны кілаграм ягад у памеры 2,2 базавай велічыні. Такім чынам, 1 кг ягад сабраных пры дапамозе камбайна ці грабянца парушальніку можа максімальна абыйсціся ў 777 000 рублёў. Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах : «гарачая лінія» 8-02156 - 2 86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Глыбачанін спрабаваў атрымаць выкуп за няіснага закладніка

**У турму за крадзяжы 30–гадовы жыхар Глыбокага Сяргей Палянін трапляў тройчы. Апошні раз са зняволення вызваліўся ў канцы 2009–га. Вярнуўшыся ў родны горад, жыў у сястры і разважаў, дзе б, не напружваючыся, расстарацца грошай.**

Выпадкова даведаўся, што яго школьны знаёмы Андрэй яшчэ ў 2001–м з'ехаў на заробкі ў Маскоўскую вобласць і знік. Родныя звярталіся ў міліцыю, але пошукі, на жаль, не далі выніку. У Паляніна саспеў каварны план. Ён падрабіў на папяровай сурвэтцы ліст, нібы напісаны рукой Андрэя, прыйшоў з ім да яго бацькоў і заявіў, што хлопец знаходзіцца ў палоне ў Абхазіі. Маўляў, людзі, якія ўтрымліваюць Андрэя, гатовыя адпусціць закладніка, калі атрымаюць выкуп — 220 даляраў. Грошы бацькі павінны перадаць Паляніну.

— Падчас гэтага спектакля ашуканец блытаўся ў дробязях і нерваваўся, — аднаўляе карціну намеснік пракурора Глыбоцкага раёна Ігар Валынец. — Бацька зніклага маладога чалавека, які больш 30 гадоў адпрацаваў народным засядацелем у судзе, засумняваўся ў праўдзівасці яго слоў і выклікаў міліцыю.

У той вечар Палянiну атрымалася збегчы. Пазней яго затрымалі і засудзілі па артыкуле КК «Махлярства». Два гады і адзін месяц калоніі строгага рэжыму — такі вердыкт Глыбоцкага раённага суда.

***Сяргей Галеснік***

Крыніца: Беларусь Сегодня



20 ліпеня ў малой зале к/з Мінск адбудзецца традыцыйны летні канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча з нагоды дня народзінаў артыста. У праграме: лепшыя і новыя песні, выступ сяброў музыкантаў, песні і паэзія і, канешне ж, прыемныя неспадзяванкі! Кошт квіткоў ад 25 000 да 35 000. Даведкі: 6490888. Каса: 017-3286638 Кропкі продажу: каса к/з Мінск, пераход каля ГУМа (каля Макдональдса).

# Пры падтрымцы ЕС у Беларусі стартаваў праект па паляпшэнні мясцовых стратэгій устойлівага развіцця ў трох сельскіх супольнасцях

**У Беларусі стартаваў праект па паляпшэнні мясцовых стратэгій устойлівага развіцця ў трох сельскіх супольнасцях: горадзе Дзісна Віцебскай вобласці, Белазёрскім сельсавеце Брэсцкай вобласці, двух сельсаветах Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці: Дукорскім і Ананіцкім. Пра гэта паведаміў аташэ прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Яніс Айзсалніекс 8 ліпеня на канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, праект рэалізуецца арганізацыяй «Польская зялёная сетка» і міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Экапраект партнёрства» ў межах праграмы Еўрапейскай камісіі «Аб'яднанне грамадзян і органаў мясцовай улады: праграмы для Беларусі».

Мэта праекта — стымуляваць супрацоўніцтва розных сектараў грамадства для развіцця і выканання мясцовых стратэгій устойлівага развіцця. У яго межах у кожнай супольнасці будуць створаны ініцыятыўныя групы з ліку мясцовых актывістаў, якія зоймуцца выяўленнем і вырашэннем мясцовых праблем. Іх задача таксама прыцягнуць да гэтага ўсе зацікаўленыя органы.

Каб палепшыць працу ініцыятыўных груп, запланавана правядзенне трэнінгу «Як арганізаваць ініцыятывы для мясцовага развіцця. Метады прыцягнення». Для выяўлення прыярытэтных мясцовых праблем і знаходжання шляхоў іх вырашэння прадугледжваецца таксама правесці сустрэчы ў супольнасцях з выкарыстаннем тэхналогіі «Адкрытая прастора».

У межах праекта для прадстаўнікоў супольнасцяў будзе арганізавана паездка ў Польшчу. Яе мэта — азнаёміцца з польскім вопытам прыцягнення грамадзян да вырашэння мясцовых праблем і ўстойлівага развіцця сельскіх тэрыторый.

Апрача таго, прадугледжваецца выдаць тры брашуры па пытаннях устойлівага развіцця.

Як зазначыў Айзсалніекс, ЕС вітае актыўнае супрацоўніцтва мясцовых органаў улады з няўрадавымі арганізацыямі ў Беларусі, якому будзе садзейнічаць у тым ліку і рэалізацыя праекта. «На нашу думку, толькі развіццё, заснаванае на такім супрацоўніцтве, можа быць устойлівым», — сказаў ён.

Аташэ прадстаўніцтва ЕС спадзяецца, што праект прынясе «шмат пазітыўных перамен і ідэй», якія могуць быць выкарыстаны для далейшых заявак на атрыманне фінансавай дапамогі ад ЕК.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН*

# Расіянін памёр у мінскай маршрутцы ад спякоты

Смерць наступіла ад сардэчнага прыступу - у «маршрутцы» відавочна не было кандыцыянера.

Грамадзянін Расіі, які прыехаў у госці ў Беларусь, раптоўна памер у маршрутным таксі «Полацк-Мінск», паведаміў агенцтву «Інтэрфакс» у панядзелак старэйшы памочнік пракурора Менска Сяргей Балашоў.

«У маршрутным таксі «Полацк-Мінск» раптоўна памёр 60-гадовы жыхар Санкт-Пецярбурга. Па папярэдняй інфармацыі, смерць наступіла ў выніку сардэчнай недастатковасці», паведаміў Балашоў.

Ён адзначыў, што смерць адбылася, калі маршрутнае таксі прыехала з Полацка ў Мінск.

Расіянін знаходзіўся ў Беларусі з 8 ліпеня, ён прыехаў у госці, – удакладніў суразмоўца.

# Тры крымінальныя аўтарытэты Пастаўскага раёна прыгавораныя да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі за забойства

**Тры крымінальныя аўтарытэты Пастаўскага раёна Міхаіл Януковіч і яго саўдзельнікі Алег Зубкевіч і Андрэй Лук'янаў прыгавораныя Магілёўскім абласным судом да працяглых тэрмінаў пазбаўлення волі за забойства двух раней судзімых жыхароў Пастаў.**

Як паведамілі ва Упраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, Януковіч і Зубкоў атрымалі па 23 гады пазбаўлення волі, Лук'янаў — 13 гадоў.

Забойства было ўчынена ў 2007 годзе падчас крымінальнага разбору. Супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС устанавілі, што адзін са зламыснікаў пад выглядам перапродажу зямельнага ўчастка завабіў двух раней судзімых асоб на закінуты хутар непадалёк ад літоўскай мяжы. Там яго саўдзельнікі з засады адкрылі агонь з абрэза паляўнічага ружжа і малакалібернага пісталета. Целы злачынцы закапалі ў лясным масіве каля вёскі Навасёлкі-2 Пастаўскага раёна.

Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў удалося высветліць, што злачынная група Януковіча рэгулярна займалася вымаганнем, махлярствам, грабяжамі, а таксама «крышаваннем» камерцыйных структур. У выніку міліцыянеры затрымалі яшчэ васьмярых удзельнікаў гэтай групы. Зараз усе яны знаходзяцца пад вартай у СІЗА № 1 УДВП па Мінскай вобласці і Мінску.

Расследаваннем крымінальнай дзейнасці пастаўскай злачыннай групоўкі займаецца Генеральная пракуратура Беларусі сумесна з ГУБАЗіК МУС. Грамадзяне, якія пацярпелі ад яе дзеянняў, могуць звяртацца па наступных кантактных тэлефонах: 8-029-638-07-72 и 8-029-673-07-50.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

